# Самапомач Гаспадарам

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

Год VII. Вільня, Жнівень 1938 г. № 8 (82).

*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# „За вернасьць роднай зямлі!“

Ці-ж можна сягоньня дзівіцца з тых, хто цьвердзіць, што ўсе войны, усе спрэчкі, у якія-б харошыя словы яны ня прыбіраліся,—вяліся й вядуцца за валаданьне зямлі?! І так на працягу ўсей гісторыі. А з апошніх часоў даволі ўспомніць хоць-бы сапраўды геройскую барацьбу, якую за родную зямлю вялі польскія сяляне ў граніцах прадваеннай Нямеччыны. Адзін з мамэнтаў такое барацьбы ўспаміналі мы летась, пішучы аб селяніне Джымале. Была гэта барацьба не на жарт, барацьба, здавалася-б, ня роўная: з аднэй стараны магутная, з пят да галавы азброеная, багатая Нямеччына, а з другой — сам толькі польскі селянін, адзінай зброяй каторага была любоў да роднай зямлі і непераможная вера ў перамогу праўды над грубой сілай. І гэта любоў, і гэта вера перамаглі!

Гэтак было. А што ёсьць сягоньня?

Ужо каторы час надходзяць бурныя весткі аб тым, як тыя-ж немцы, пад відам абароны (а якжа!) сваіх і іншых нац. меншасьцяў, востраць зубы на рэшту чэскай зямлі, якой не апанавалі іхнія-ж каляністы пачынаючы ад XIII веку.*) Лішне зазначаць, што сяньняшнія чэскія сяляне — культурна ня менш сільныя ад немцаў, а да таго незалежныя і палітычна — будуць і ўжо арганізуюцца да абароны; ня толькі аружнай—аб чым агульна ведама, але і **моральнай.** Ведамая з часоў палітычнай няволі прывязанасьць чэскага селяніна да свае зямлі, калі адступіць, прадаць ці наагул вызбыцца на карысьць ня-чэха хоць-бы аднае пядзі чэскае зямлі рахавалася праступствам і здрадай—і сягоньня ня толькі ні ў чым ня прытупілася, але наадварот—завастрылася. Доказам гэтага могуць быць сёлета як раз чэскімі сялянамі пачатыя ўрачыстыя **прысяганьні на вернасьць роднай зямлі.** Апісаньні гэткае прысягі*) вельмі павучальныя. Сяляне дашуківаюць у дакумэнтах, як далёка ў старасьвеччыне (даходзяць гэтак да 16-га стагодзьдзя і далей) іхныя прашчуры былі ўжо на гэтай ці іншай зямлі і ўсё гэта запісваецца ў асобную родаводную кнігу. Прадстаўнікі сучасных родаў пасьля гэтага ўрачыста прысягаюць, што і яны і іхныя патомкі, вядучы правільна гэту кнігу далей, патомным пакаленьням перакажуць абавязак бараніць родную зямлю ад усякага чужынца. Родныя-ж улады-ж земляробскіх арганізацыяў надаюць такім сялянам спэцыяльныя ордэры *«За вернасьць роднай зямлі»*.

Гэткіх і падобных прыкладаў, як культурныя народы цэняць свой незаменны скарб — родную зямлю, можна было-б прыводзіць без канца. Дапоўніць іх толькі заўсяды трэба, што ня той сапраўды кахае і шануе сваю зямлю, хто аб гэтым толькі гавора, а думае аб

*) Часта ўспамінаны сяньня край Судэты — гэта чыста чэская зямля, на якой толькі ўжо ў XIII стагодзьдзі пачалі асельвацца нямецкія каляністы (асаднікі) Спачатку яны чуліся тут гасьцмі, але пасьля—задаўніліся і так „асвоіліся“, — называюць гэта цяпер „набыцьцём гістарычных правоў”, — што сягоньня, як бачым і чуем, хацелі-б сапраўдным гаспадаром зямлі — чэхам накінуць сваю волю так, як гэта было „за добрых часаў”, калі чэхі знаходзіліся пад аўстрыяцкім панаваньнем.

*) „čsl. Zemedelec“ № 24 (979).

собскай карысьці, але той, хто пры ўсякіх варунках слова падпірае чынам.

Аб усім гэтым вельмі на часе ўспомніць як раз цяпер, калі зямля-карміцелька выплачвае чалавеку свой доўг у форме цэлагодняга ўраджаю. Цяпер, паўтараем, найлепшы час, каб і наш беларускі земляроб уявіў і зразумеў, чым для яго ёсьць родная зямелька і чым быў-бы сам наш селянін, калі-б нейкая сіла хацела яго ад гэтае зямлі адарваць.

Не дагадваймася тут аднак, як у такіх выпадках наш селянін паступаў-бы; не дагадваймася з тае хоць-бы прычыны, што сяньня ніхто проста нашаму чалавеку ня скажа, што з роднай зямлі хоча яго высадзіць. Ёсьць на гэта шмат спосабаў укрытых, замаскаваных і дзеля таго тым больш небясьпечных.

Адзінай пэўнай зброяй супроць небясьпекі ёсьць асьвета, ёсьць родная кніжка і газэта, а перад усім праца і вытрываласьць, як гэта памастацку даўно ўжо высказаў наш паэт Купала:

Хай злыдні над намі
скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву,
свой край
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй, засявай!..







# Żydy i Araby ŭ Palestynie

Štoraz čaściej čuvać ab vialikich uzvarušeńniach u dalokaj Palestynie. Ab tamašnim žyćci cikavuju knižku p. n „Abiacanaja Ziamla. Novaja Palestyna" napisaŭ słaŭny na ŭvieś śviet znaŭca ŭschodu, prafesar českaha Universytetu ŭ Prazie Ks. Dr. Alois Musil. Z hetaje knižki, za pasiarednictvam časapisu „čsl. Zemedelec", biarom viestki ab žyćci sialan-ziemlarobaŭ arabskich i ab ichnim spabornictvie z žydami, hałoŭnym čynam z pryjezdnymi. — r e d.

Palestyna heta nievialiki, bo ŭsiaho na 23.000 kv. klm. pałožany kraj, pieravažna harysty i skalisty. Nasielnictva ŭsiaho kala 800 tys. asob, z jakich najbolš arabaŭ (kala 600 tys.), a rešta — žydy i roznyja chryścijanie. Ad 636 h. Palestyna była pad panavańniem arabaŭ, katorych u 1076 h. pieramahli turki i panavali tut da 1917 h.: u hetym hodzie zavaładała Palestynej Anhlija, tvoračy tut pad svajej apiekaj narodnaje haspadarstva (dziaržavu) žydoŭskaje. Ad hetaha času ŭ Palestynu masava pačali vyjaždžać žydy, štoraz bolš usiudy naciskajučy na miascovych arabaŭ. Ab žyćci arabskaha sialanina-ziemlaroba pry hetkich varunkach Al. Musil raskazvaje miž inšym hetak:

## Arabskija sialanie.

Pierachod ziamli z arabskich ruk ŭ žydoŭskija pačaŭsia jšče prad suśvietnaj vajnoj, paśla 1909 h., kali karonnyja (sułtanskija), prad tym sialanskija, ziemli pierajšli da kazny. Čynoŭniki, dziela łohkaj nažyvy, krali hetyja ziemli i pradavali naprava-naleva, pradavali i žydom, a sami ŭciakali zahranicu. Arabskija-ž sialanie kupili pry hetym ziamli vielmi mała, pracujučy i dalej jak arendatary ci pałavičniki. Hetkija paradki znajšli tut anhličanie, kali zasnoŭvali žydoŭskaje haspadarstva. Blizu ŭsia pryhodnaja ziamla była vykuplena. Tam-ža, dzie jšče ziamli kry-

# Не для хлеба, а для працы!

Усё ў сваім часе! — гэта адзін з найгалаўнейшых варункаў удачы ў жыцьці. Тое самае і ў земляробскай гаспадарцы. І таму хоць праца ў полі цяпер якраз у поўным разгары, то ўжо пара падумаць і аб будучыні. Аб будучыні бліжэйшай — аб заворываньні аржышча пад пажніўныя засевы і аб прыгатоўваньні глебы пад зімовую ворку пісала „Самапомач“ у апошнім нумары. Сягоньня хочам падзяліцца з нашымі чытачамі думкамі аб будучыні дальшай.

Калі заглянуць у статыстыку, дык кідаецца ў вочы вялікая розьніца паміж ураджаямі, якія асягае земляроб наш і такімі-ж ураджаямі заграніцай. Скуль гэта розьніца? Ці ўсяму вінавата наша „неўраджайная“ зямля, ці благі клімат, ці наш чалавек менш працуе, ці што там яшчэ іншае?

Пэўне-ж, ёсьць на сьвеце і лепшая зямля і лепшы клімат — усё гэта праўда. Але праўда й тое, што ёсьць цэлы рад краёў, якія пры такой і яшчэ горшай зямлі і пры такім-жа як наш клімаце маюць ураджаі незраўнана вышэйшыя. Не гаворым ужо тут зусім аб такіх краёх як Голяндыя, жыхары якой даслоўна вырываюць сабе ўзьбярэжную зямлю ад мора. Гэткім чынам апошнім толькі часам Голяндыя здабыла для сваіх сялян новых 225 тысячаў гэктараў, якія ўчора йшчэ былі звычайным марскім дном. Ня йнакшае пабачым у суседняй з Голяндыяй Даніі. Трудна ў словах выказаць, да якіх рэзультатаў дапрацаваліся земляробы Нямеччыны, Чэхаславаччыны, Пазнаншчыны, а нават бліжэйшых да нас Латвіі і Літвы. Аб рэзультатах (дадатніх і ад'емных) земляробскай працы ў Саветах, дзеля зусім іншых там варункаў жыцьця, гаварыць тут ня прыходзіцца. Не гаворым тут таксама аб далёкіх краёх заморскіх, для земляробства асабліва прыгодных, дзе напр. на нягноенай і нявырабленай зямлі можна зьбіраць два добрыя ўраджаі ў год Усё гэта, паўтараем, выпадкі нязвычайныя. Паза імі, прыродныя варункі дзеля земляробскай працы ўсюды такія самыя, а нават горшыя як у нас. І аднак у гэтых краёх людзі маюць двойчы, а нават тройчы большыя ўраджаі.

Чым гэта вытлумачыць?

Каб адказаць на гэта пытаньне, трэба параўнаць чалавека-жыхара ўспомненых краёў з жыхарам нашай вёскі беларускай. Абмінаем тут з канешнасьці пытаньне аб тым, што знача для поў-

chu było, tam pieraškadžaŭ pracy niedastatak vady.

Siahońnia rachujuć, što kab pražyć na zvyčajnaj zbažovaj haspadarcy, treba mieć 13 ha pola. Kali mieć davoli hrošaŭ na lepšuju skacinu i snaść, dyk moža chapić i 10 ha. Dzie možna dastać vadu na palivańnie pola, chopić, kab pražyć, i 4 ha. Urešcie, kali zakładać pamarančavyja ci bananavyja sady, dyk chopić i 2 ha. Ale skul-ža chto moža mieć hetu ziamlu, kali hektar kaštuje 5.000 załatych funtaŭ?

A biezziamielnych arabskich siemjaŭ prybyvaje štoraz bolš; u 1933 hodzie ich było zapisana 3.700. Ahułam-ža na 100 sialan — 29 nia majuć ni kała ni dvara. Anhlickija ŭlady robiać roznyja proby, jak vyjšci z hetak trudnaha pałažeńnia i dajšli tymčasam da pierakanańnia (rapart kamisara L. French'a z 1933 h.), što ŭ Palestynie volnaj ziamli niama, a inšyja (sir J. H. Simpson) prosta kažuć, što palestynski sielanin nia majecca ciapier ničuć lepš, jak mieŭsia za panavańnia Turcyi. Ziamielnyja padatki ahramadnyja Skasavana dziesiacina, a zaviedzieny padatki ŭ paŭtara raza vyšejšyja. Ab vychavańni sialan nichto nie starajecca. Kali nie papravicca ŭ Palestynie sposab haspadarki, dyk, jak kaža toj-ža J. H. Simpson, nia budzie tam anivodnaha miesca dla pryjezdnaha kalonista.

A nasielnictva ŭsio raście, jak naturalnym pryrostam, tak i pryjezdam žydoŭskich kalonistaŭ. U hetkich varunkach ciažka žyć arabskamu sielaninu, jaki jšče niejak utrymaŭ za saboj skalistyja poli na skłonach horaŭ. Raście tam tolki redki, na piadziu vysoki jačmień. Ale ŭsio-ž jošć niešta, što čałavieka viaža da ziamli. Horš tamu, chto i hetaha nia ŭtrymaje za saboj.

Chto bolš ruchlivy, a maje jšče kolki hrošaŭ paśla pradažy ziamli, toj časam kidajecca na handal. Ale ci-ž vytrymaje konkurencyju z handlarom žydoŭskim,

нага разьвіцьця чалавека сьведамасьць ягонай незалежнасьці палітычнай. Затрымаемся толькі на **асьвеце.** Што гэта пытаньне балючае — ведае кожны. Зазначма тут толькі, што ад вырашэньня пытаньня асьветы залежа лёс народу. Усюды і бяз вынятку. Дабрабыт народу, які сягоньня кожны бача, ня мог вырасьці йнакш, як толькі там, дзе прад тым прыгатавала яму глебу асьвета: праз родную кніжку, часапіс, арганізацыю, школу. Калі сягоньня дзівімся напрыклад, да якіх ураджэяў дапрацаваліся чэхі ці немцы, дык ведайма, што такія чэхі за год будуць сьвяткаваць 90-ыя ўгодкі 1-ай сваей фахова-зямляробскай школы. Сягоньня такіх школ ёсьць там густая сетка, не гаворачы ўжо аб школах агульна-асьветных. З малым выняткам, кожны гаспадар (маладое пакаленьне) там прайшоў такую школу, а паза гэтым ён: належа да фаховых арганізацыяў, чытае фаховыя кніжкі (з арганізацыйнай бібліятэкі і свае собскія), выпісвае і аплачвае часапісы, на супалку ўтрымлівае фаховых інструктароў і г. д. Усё гэта яму аплачваецца ня толькі ў павышаным ураджаю, але і ў пачуцьці самаздаваленьня і ахвоце да дальшай плоднай працы.

Як усё гэта прадстаўляецца ў нашай вёсцы б е л а р у с к а й!

Голад на школу, на добрую кніжку, часапіс, адпаведную арганізацыю — гэта зьявішча агульна—знанае і аб гэтым тут гаварыць нечага, бо і направа гэтых недастаткаў ляжыць па-за граніцамі магчымасьцяў самага нашага селяніна. Тым большую затое ўвагу сягоньня трэба было-б зьвярнуць на ўстарэлы, і таму вельмі шкодны **забабон,** што як ўжо **хто хоць крыху здабудзе асьветы, дык канешна мусіць кідаць гаспадарку** і ўцякаць упрочкі; **а калі** ўжо такі „вучоны" мае **астацца** на вёсцы, з каторай выйшаў, дык толькі патое, **каб жыць сокамі гэтай вёскі,** як жыве першы лепшы прыездны чалавек чужы. Аб патрэбе упрагаць лепшыя сілы вёскі ў працу для дабра гэтай-жа вёскі—як-жа мала хто думае. І гэта ёсьць найстрашнейшая хвароба нашай вёскі, больш небясьпечная нават ад. агульнай галіты, ад недацэньваньня патрэбы фахова-земляробскай асьветы.

Як гэта зло направіць?

Набліжаецца новы школьны год. Хто і як можа, хай стараецца дастацца ў школы. Бяднейшым і незаможным трэба памагчы здабыць хоць-бы самаўрадавыя стыпэндыі. А перад усім трэба

---

jaki ŭ handli maje praktyku i pomač ad adnaplamiencaŭ z zahranicy?

Araby majuć svaich pryjacielaŭ taksama, ale jany tolki radziać, a hrošaŭ nie dajuć. Radziać jany arabam zakładać kooperatyŭnyja kasy kredytovyja, jakija vykuplivali-b zadoŭžanyja arabskija haspadarki i vučyli-b arabskaha sielanina haspadaryć pazyčanym hrašom. Taksama radziać, z pomaččų anhlickaha ŭradu, zakładać kooperatyvy spažyvieckija, katoryja viali-b pierahavory z paasobnymi kredytorami ab urehulavańni daŭhoŭ. Ni adnych adnak ni druhich kooperatyvaŭ nia radziać arhanizavać supolna dla arabaŭ i žydoŭ, a tolki dla kožnaha z ich asobna, bo žyd uvažaje siabie za niešta vyšejšaje ad araba. A arabski ziemlarob jošć pilny, pracavity i za niekalki hod zusim dobra haspadaryŭ-by.

### Kankurencyja z žydami.

Z stała napłyvajučymi žydami ciažka zmahacca arabam užo choć-by dziela taho, što žydom vielmi pamahaje mahutnaja žydoŭskaja arhanizacyja Syjonistaŭ. Na ziemlach kuplenych hetaj arhanizacyjaj śmiejuć asielvacca tolki žydy, jakija da taho zabaviazvajucca, što ziamli hetaje ani pradaduć, ani vyarendujuć niažydu; navat nia pryjmuć inšaha jak tolki žydoŭskaha rabotnika. Hetkaje zabaviazańnie žydy ŭstavili ŭ statut svaje ahulnaje arhanizacyi Keren kajemeth. Inakš zmahli pastupać tolki viedamyja žydoŭskija milijanery Rotšyld i Hirš, jakija na svaje ahramadnyja ziemli pryjmali i rabotnikaŭ arabskich, addavali im pole ŭ arendu ci na adrabotak. Ale i heta ŭžo pierajšło ŭ historyju.

Niepryjaźń da arabaŭ adčuvajecca nia tolki ŭ žyćci haspadarčym. U školach syjonistaŭ napr. nia vučać arabskaha jazyka; ad samaha pačatku zatoje vučać jazyka anhlickaha, a vykładovym jazykom jošć jazyk hebrajski. Žyd nie najmie furmanki, jakaja nie naleža da arhanizacyi syjonistaŭ.

пераламаць успомнены забабон і пастарацца вучыць новае пакаленьне не „для хлеба,“ а дзеля працы ў тэй-жа вёсцы.

Гэткі павінен быць плян на будучыню, калі яна мае быць і ў нас сьвятлейшай! *С. Я—віч.*

# На абжынкі.

Якая гэта шкода, што сяньняшняе наша пакаленьне што раз болей і болей забываецца аб абжынках і прывыкае да „дажынкаў“! Інакш кажучы — забывае стройны наш звычай родны, здаваляючыся апавяданьнямі ці апісаньнямі больш ці менш падобных звычаяў чужых. —

Так нядаўна йшчэ ў жніўную пару, ад вечара і да ночы, па ўсіх палёх і лугох нашых зьвінелі чароўныя жніўныя песьні, па каторых сягоньня — па 25 гадох — мясцамі астаўся ўжо толькі ўспамін, часткава захаваны ад загубы ў розных нотных зборніках.

Плыла гэта песьня звонка, шчыра, ад сэрца. А сягоньня? Куды ўсё гэта падзелася? Усё змоўкла, анямела, прытаілася. Замест гэтага пануе або нейкая марозячая мярцьвечына, або — або вынырне нейдзе бясстыднае скамленьне падслуханае ад розных „гарадзкіх“ прайдзісьветаў. Гіне гэтак сапраўднае хараство, бясцэннае народнае багацьце, уступаючы месца або пустаце або згнілой тандэце.

І што рабіць?

Уважаю за патрэбнае:

1. усюды, дзе старэйшае пакаленьне йшчэ памятае абрады і песьні абжыначныя і дзе ёсьць даволі сьведамае моладзі — наладзіць яшчэ сёлета свае абжынкі;

2. там-жа, дзе трудна было-б знайсьці выканальнікаў на месцы, там злучыцца дзеля гэтай мэты з моладзьдзю суседняй і абжынкі сарганізаваць супольна; урэшце

3. ад старшых людзей сьпісаць, як даўней абжынкі абходзілі і якія пры гэтым сьпявалі песьні (запісаць словы песьні, а да запісываньня нотаў запрасіць або некага знаючага ноты на месцы або хоць-бы паведаміць каторуюнебудзь беларускую рэдакцыю).

Захавайма нашы песьні і абрады, бо гэта ня толькі люстра нашага жыцьця, але і крыніца сілы да працы.

*І. Цітавіцкі.*

---

Hetkija adnosiny prymusili arabskich rabotnikaŭ taksama arhanizavacca, tymbolš što arabski rabotnik pracuje 14 hadzin i zarablaje 6, najbolš 12 piastraŭ, tady jak rabotnik žydoŭski pracuje tolki 8 hadzin i zarablaje 17—20 piastraŭ. Sajuz arabskich rabotnikaŭ damahajecca, kab ułady skasavali zakon, jaki tolki žydom pazvalaje vykarystyvać ziamielnyja bahaćci kraju i kab ułada vydała zakon na abaronu arabskich rabotnikaŭ; damahajucca jany niezaležnaści Palestyny ŭ sajuzie z ahulna arabskaj złučnaściu, zabarony dalšaha najezdu žydoŭskich kalonistaŭ i poŭnaha roŭnapraŭja z rabotnikam žydoŭskim. Staršynia Sajuzu arabskich rabotnikaŭ Fachri Našašibi 17.XII.34 abvieściŭ bajkot žydoŭskich rabotnikaŭ, a dalšuju abaronu intaresaŭ arabskich viadzie pradstaŭnictva vybranaje 12.3.36 ŭ Jaffie. Supolna, žydy z arabami, jduć tolki kamunisty; dy i to arabskija kamunisty bahatych žydoŭ uvažajuć za pryładu anhlickaha imperjalizmu.

Za prykładam žydoŭ, taksama araby starajucca ciapier sarhanizavać svoj narodny skarb i na heta źbirajuć hrošy ad vosieni 1932 hodu. Za hetyja hrošy chočuć jany vykuplivać ziamlu ad zadoŭžanych arabaŭ, kab hetak uratavać choć reštu arabskaje ziamli ad pierachodu ŭ ruki žydoŭskija. Hetkaje Arabskaje T-va abarony palestynskaj ziamli zasnavana było 11.X.1932 h. z kapitałam 10.000 P. Pry pomačy ehipieckaha banku budujuć arabskija patryjoty svoj Bank Ziemlarobski, kab uspamahać svaich adnaplamiencaŭ i arhanizavać arabski promysieł i handal. Hetaj-ža mecie maje służyć i Ahulna-Arabski Kooperatyŭny Bank, arhanizavany anhlickimi pryjacielami Arabaŭ.

Z usiaho hetaha Al. Musil robić taki vysnavak: žydy apirajucca na praktycy, aśviecie i pomačy svaich adnaplamiencaŭ, a araby, pieravažna ŭbohija, mohuć spadziavacca tolki na samych siabie.

Jak bačym, zmahańnie za ziamlu ŭ Palestynie vielmi haračaje i trudnaje.

# Чаго дамагаецца коопэрацыя?

Як мы ўжо пісалі, сусьветная коопэрацыя, сарганізаваная ў Міжнародны Коопэратыўны Саюз, сьвяткавала сёлета Дзень коопэрацыі 2 ліпня. З нагоды гэтага сьвята Міжнародны Саюз Коопэратываў выдаў і разаслаў усім нацыянальным Саюзам праект рэзалюцыі, якую гэтыя апошнія мелі разглядзець і прыняць. Гэта рэзалюцыя адбівае ў сабе сучаснае аблічча коопэрацыі і таму заслугоўвае на агульнае пазнаньне. Вось ейны даслоўны тэкст:

„Сарганізаваныя ў Міжнародным Коопэратыўным Саюзе коопэратары ўсяго сьвету, сабраўшыся дзеля сьвяткаваньня 16-га Дня Коопэрацыі, яшчэ раз заяўляюць сваю цьвёрдую веру ў асновы **дэмакрацыі, свабоды і міру**; выказваюць абурэньне проціў умешваньня ў правы і свабоду *вольных* народаў ды проціў кожнага абмяжоўваньня іхных правоў на дабравольнае арганізаваньне і свабоднае разьвіцьцё; заяўляюць пагляд, што гэтыя гаспадарскія засады й сацыяльныя ідэалы, каторыя ляжаць у аснове сусьветнага коопэратыўнага руху, зьяўляюцца найбольшаю запарукаю і надзеяю супольнага адраджэньня ды найпэўнейшай гваранцыяй агульнага, на супрацоўніцтве роўных абапёртага міру; — абавязуюцца за сябе і за свае коопэратыўныя арганізацыі ўзмоцніць стараньні на абарону свабоды і ўсімі сіламі імкнуцца да справядлівай ды мірнай развязкі сучасных сусьветных канфліктаў“.

З усяго гэтага відаць, што вольная ад „апекі“ коопэрацыя не здавольваецца самымі толькі задачамі характару гаспадарчага. Відаць гэта з нядвузначнага прымыканьня да палітычных клічаў: дэмакрацыі, свабоды і міру; відаць гэта і з канцавых заданьняў — супрацоўніцтва дзеля справядлівай і мірнай развязкі сучасных сусьветных канфліктаў. — З усім гэтым можна і трэба згадзіцца. Тымбольш аднак незразумела, чаму коопэратары „абураюцца“ проці „ўмешваньня“ ў правы і свабоду адных толькі народаў *свабодных?* Ці-ж не паклікана была коопэрацыя якраз да ўспамогі ўсіх народаў, а знача й тых, для якіх зорка свабоды йшчэ не засьвяціла: або, праз людзкую прагавітасьць, сьвяціць перастала?

*К.*



# HISTORYJA CHLEBA

2)

Kitajcy i indusy daŭniej chleba nia znali, zamiest jaho užyvali jany ryž i pšano. Zatoje chleb byŭ haloŭnaju pažyvaju ŭ daŭniejšych ehipcijanaŭ. Znajemo heta z astaŭšychsia kuskoŭ skamianiełaha chleba, jaki znachodzili j znachodziać u paadkopyvanych hrabnicach ehipcijanaŭ. I u fenikijcaŭ, žydoŭ dy hrekaŭ chleb byŭ taksama haloŭnaju pažyvaju.

Žydy piakli chleb u piakarskich piečach, u haračym popiele, na raspalenym kamieni abo na metalovych plitach. U časie svaich vandravańniaŭ za Abrahamam, Izaakam i Jakubam dy za Majsiejem piakli jany chleb nad ahniom u adumysłovych pasudzinach. Pry hetym, jak znajem z św. Piśma, piačeńniem chleba zajmalisia žančyny. Piakli jany chleb presny ŭ pieranosnych piečach, ale ad fenikijcaŭ naŭčylisia piačy chleb na cieście kvašanym. Hetaha sposabu ad fenikijcaŭ naŭčylisia i rymlanie (172 h. prad Chr.).

U hrekaŭ byŭ śpiarša (u V i IV viakoch prad Chr.) chleb niakvašany, najčaściej jačmienny z vadoju, alivaju, małakom i h. d. i nazyvali jaho „madza.“ Sapraŭdnym chlebam u hrekaŭ byŭ „artos,“ jaki byŭ roznaha hatunku, zaležna ad sposabu piačeńnia, formy, ad jakaści muki ci zboža, a taksama ad krainy, z jakoj muka heta pachodziła.

Hreki, jakija vynachad chleba prypisyvali bahini ziemlarobstva Demetri, u časy Homera, za 1000 hadoŭ da naradž. Chrysta, užyvali da piačeńnia chleba padaŭhavatyja sudziny abo źvivali ciesta ŭ źvitok. U Atenach*) daŭna ŭžo vydadzienyja byli dakładnyja praviły ab tym, jakaja pavinna być vaha i forma bochanaŭ chleba. Hetyja praviły ŭtrymalisia značna paźniej, i nia tolki ŭ hrekaŭ, ale pierajšli i da rymlanaŭ i abaviazvali jšče za rymskich cezaraŭ i paźniej.—Bachany chleba

*) Ateny jnakš Afiny—stalica Hrecyi

# Закон аб роварах

Законныя прадпісаньні аб роварах (веласіпэдах) знаходзяцца ў распараджэньні Міністраў: Шляхоў (комунікацыі) і Унутраных Спраў з дня 15.7.1937 г. (Dz. U. Nr. 58, poz. 458, 1937). Паводле гэтага распараджэньня ровар можа быць ужываны на публічных дарогах толькі пасьля таго, як ён быў зарэстраваны і калі ўласьнік выкупіў для яго адумысловую роваровую таблічку, якую выкупляць трэба ў гміне таго району, дзе жыве ўласьнік ровару.

Таблічкі ровару важныя на 2 календарныя гады. Уласьнік ровару павінен прымацаваць яе стылу ровару за сядлом, пад простым кутом да лініі самага ровару так, каб яе стылу можна было лёгка бачыць. Цана такой таблічкі: 4 зл., калі выкупляецца ў першым годзе рэстрацыйнай пары, або йнакш кажучы на 2 гады; 3 зл. — калі яна выкупляецца ў другім годзе рэстрацыйнай пары, ці йнакш кажучы на 1 год. Для ор'ентацыі падаем, што гады, у каторых апошняя цыфра (напр. цыфра *8* у 193*8* годзе) ёсьць парная (чотная) лічацца *першымі*, а гады з такімі-ж лічбамі няпарнымі (напр. *9* у 193*9* г.) лічацца гадамі *другімі* у падлічаньні пары рэстрацыйнай. Таму напр. хто рэеструе ровар сёлета, той павінен плаціць за таблічку 4 зл. і яна будзе важнай да канца 1939 г. Той-жа, хто будзе купляць такую таблічку ў 1937 годзе, будзе за яе плаціць толькі 3 зл., але затое карыстаць з яе будзе таксама толькі да канца тагож-самага 1939 году ці йнакш кажучы найбольш адзін год.

Ад аплатаў рэстрацыйных звольненыя: жаўнеры жандармэрыі, служачыя дарожныя, паліцыянты, пагранічнікі, ніжэйшыя служачыя казённыя і самаўрадавыя, калі ўлада іхняя цьвердзіць, што ровараў ужываюць выключна дзеля мэтаў службовых.

Малалетнія да 12 гадоў ня маюць права ужываць ровараў на дарогах публічных.

Кожны ровар ужываны на публічных дарогах павінен мець:

a) спраўны тормаз („гамулец"), b) стылу з левай стараны прымацаваны ліхтарык з чырвоным сьвятлом, c) званок, як сыгнал дзеля асьцярага765ньня.

Калі настане сутанак (змрок), ровар павінен мець прымацаваны наперадзе ліхтарык, так устроены, каб не засьляпляў асобаў, якія знайдуцца прад роварам.

---

ŭ hrekaŭ składalisia z vaśmioch abo čatyroch častak, u rymlanaŭ—z čatyroch.

Staryja rymlanie z časoŭ karaloŭ jeli syroje ziernie zboža. Paźniej varyli ziernie zboža, a jšče paźniej pražyli jaho. I tolki kala 400 hodu da Chrysta znajšli rymlanie sposab miasić ciesta tak, jak heta siańnia robim my, dy vyrablać bondy i placki. Ad rymlanaŭ naŭčylisia piačy chleb gałły (u siahońniašniaj Francyi), a ad ich užo ŭsia Eŭropa. Za časoŭ cezara Aŭhusta (znača u časie naradžeńnia Chrysta) było ŭ Rymie 329 chlebapiokaŭ, jakija vypiakali chleb z muki mołataj u vodnych młynoch, paraźmieščanych na rakoju Tybram. Rymskija piekary byli sarhanizavany ŭ arhanizacyju (*pictores*) pad apiekaju bahini Vesty. Chto naležaŭ da hetaje arhanizacyi, toj nia śmieŭ zajmacca inšym ramiasłom. Kali paŭstali vodnyja młyny nad Tybram, vytvarylisia tavarystvy (cechi, korporacyi) „mieračnikaŭ zboža" i karabielnikaŭ, jakija pryvozili zboža ŭ Rym na karabloch. Hetyja arhanizacyi, razam z arhanizacyjaj chlebapiokaŭ (piekaraŭ) byli pad kantrolaj asobnaha čynoŭnika... U pačatku II stahodździa pa Chryście ŭ Rymie vypiakaŭsia ŭžo chleb trajaki: zvyčajny, vajskovy i narodny.

Dziela taho što chleb najlepšaja pažyva dla ludziej, piekary pačali vielmi šmat zarablać, bahacieć i da hetaha ramiasła jšło šmat ludziej. Tady ŭłada pačała zavodzić adumysłovyja padatki ad piačyva, asabliva ŭ siaredniaviečču, a piekaram stavić specyjalnyja ŭmovy i abmiažovyvać ich u ruchach. Adno z takich rasparadžeńniaŭ paryskaj ułady z 13 maja 1569 h. nakazvała, što „Piekary musiać, pry pracy stajać zaŭsiady ŭ doŭhich saročkach, z beretami na hałovach. Vychadzić z domu im nia volna. Tolki ŭ niadzielu mohuć iści na nabaženstva ale biaz špady."

Da XVII vieku ad muki nie addzialali atruboŭ.

**A. Łatocki.**

*„Життя та Знання"*

# Скуль бяруцца ў сьвіней рабакі

Як не гаварыць, а сьвіня ў гаспадарцы гэта капітал. І таму на кішані гаспадара вельмі цяжка адбіваюцца розныя хваробы сьвіней. Адны з такіх хваробаў зьяўляюцца быццам самі-сабой і за іх сам гаспадар ні ў чым нявінаваты. Іншыя-ж хваробы — гэта плод нядбайнасьці гаспадара, якую ён пасьля дорага адплачвае. Сярод гэтых апошніх хвароб на першым месцы трэба ўспомніць аб розных рабаках.

Зародкі гэтых шкодных рабакоў пераходзяць на парасят ад сьвіней старых. Бывае гэта тады, калі парасяты кормяцца з тых самых карытаў, што й хворыя на рабакі сьвіні старыя, калі разам з гэткімі сьвінямі пасуцца на пасьбішчы ці хоць-бы толькі бегаюць па тым-жа выгане. Гэткія хваробныя рабакі шкодны так-жа й старым сьвіням: яны кепска выкарыстоўуюць пашу, памалу растуць; парасяты-ж такую хваробу прыплачваюць жыцьцём.

Найчасьцейшай прычынай розных сьвінячых шкоднікаў зьяўляюцца неадпаведныя—цесныя, брудныя хлявы. Няведама чаму ўкарэнілася пераканаНьне, што сьвіня ёсьць жывёлай бруднай. Так сапраўды бывае, — але толькі у гаспадара, які сам аб чыстату ня дбае. Трудна вымагаць ад сьвіні, каб была чыстай, калі ей гаспадар не дае належнай падсьцілкі, калі карыты цэлымі тыднямі і месяцамі стаялі нямытыя, калі сьвіня ня мае доступу да чыстай вады, у каторай напэўна выкупалася-б, калі пры сягоньняшнім масавым касаваньні папараў ня выпускаецца нават на вольнае паветра і сонца. У гэткіх варунках парасё будзе ня толькі брудным,але ў арганізьме ейным будзе поўна розных шкоднікаў. Аслабленая-ж жывёла ня мае адпорнае сілы проці шкоднікаў і лёгка ім паддаецца.

З усяго сказанага ясна, што першым варункам усьцеражэньня парасят ад шкоднікаў ёсьць завядзеньне і захаваньне чыстаты і парадку ў хляве. Далей, ня можна ў хляве трымаць парасят разам з сьвінямі дарослымі. Купель у чыстай вадзе ёсьць і для сьвіні канешная. Мацёра (сьвіня на апарашэньні) прад апарашэньнем павінна быць дакладна вымытая, асабліва падбрушша, ногі, радзільныя мясцы і шпары на нагах (паміж капыткоў). На колькі дзён прад апарашэньнем паросную сьвіню трэба аддзяліць ад рэшты сьвіней, каб яна мела даволі прастору і сухое падсьцілкі з буйна парэзанай саломы.

Пасьбішчы, дзе такія ёсьць, павінны быць абгароджаныя, каб сьвіні не даставаліся ў мясцы багністыя, у ваду ў прыдарожных равох, дзе якраз і плодзяцца розныя рабакі. Пасьвіць сьвіней найлепш не на адным месцы штогод, але найлепш штогод вызначаць месца іншае. А перад усім захаваць чыстату! Практычныя гадаўцы кажуць, што калі-б сьвіні гадаваліся ў менш „сьвінскіх“ варунках, дык напэўна былі-б значна здаравейшыя.

Урэшце адна заўвага. Прачытаўшы гэтыя радкі не адзін скажа, што „а вот я сваіх сьвіней ані купаю, ані так з імі ня няньчуся, а яны мне ўсё роўна добра шанцуюць.“ На гэта можна адказаць толькі адно: усё гэта ўдаецца толькі да часу і ўдаецца толькі таму, што гадуецца ў нас найчасьцей толькі сьвіня мясцовая, вельмі адпорная на ўсякія нявыгады, але й мала прадукцыйная. З

---

Асобам якія едуць роварамі на публічных дарогах:

1. ня вольна ехаць сярэдзінай дарогі, а толькі правай стараной,
2. ня вольна ехаць на роварах па двух чалавек побач сябе, а толькі адзін за другім,
3. ня вольна вазіць на раме ровара іншай асобы, калі ровар ёсьць аднаасабовы,
4. ня вольна ехаць ня трымаючы рук на кіраўніцы (на рулі), а ног—на пэдалах,
5. ня вольна едучы на ровары чапляцца да фурманак ці якіх іншых вазоў,
6. ня вольна ўжываць іншых сыгналаў як толькі званкоў,
7. ня вольна вясьці жывёлу і вазіць на ровары прадметы, якія размерамі сваімі пагражалі-б бясьпечнасьці руху.

Хто ня будзе трымацца гэтых прадпісаньняў, таму пагражае кара штрафу ці арышту, якую налажыць можа старастава і ад якой можна адклікацца ў Суд Акружны.

(“*Zjedn.*“).

